ВЕСЬНІК
Беларускага Каталіцкага Душпастырства

Но. 2(7) Лёндан Лета 1989

## ШКОДА МНЕ НАРОДУ...

> У той час, калі сабралася даволі многа народу і ня было чаго ім есьці, Ісус, паклікаўшы вучняў сваіх, сказаў ім: "Шкода мне народу, бо ўжо тры дні яны са мною, і ня маюць нічога есьці; калі адпушчу іх дамоў ня еўшы, саслабнуць у у дарозе ..." (Мк. 8: 1-3)

Вышэй прыведзеныя словы Хрыста, сказаныя перад цудоўным размнажэньнем хлябоў, сьведчаць аб Ягоным глыбокім зразуменьні людзей і аб спагадлівых адносінах да іхніх штодзённых, "малых", патрэбаў. Гэтыя зразуменьне і спагадлівасьць былі вынікам ня толькі Яго Боскасьці, але і ўласнага дасьведчаньня, калі Ён, успрыняўшы нашу людзкую прыроду, стаўся "пад кожным узглядам падобным да братоў, каб быць міласэрным і верным архісьвятаром перад Богам, каб прасіць прабачэньня за грахі народу. Таму якраз, што сам цярпеў і быў выпрабаваны, Ён можа памагчы тым, што праходзяць цераз выпрабаваньне" (Гэб. 2:17-18).

Хрыстос не прыйшоў, каб устанавіць нейкі новы грамадзкі лад, годны для расы "юбэрмэншаў". Ён прыйшоў, каб мы "мелі жыцьцё і мелі яго ўдосталь" (Ян 10:10), г. зн. каб нам даць магчымасьць жыць поўным людзкім жыцьцём і зьдзейсьніць патэнцыял прысутны нашай прыродзе аж да канца, да ўдзелу ў жыцьці Божым. Пры гэтым Ён у недвузначны спосаб атоесамлівае сябе з тымі, што знаходзяцца ў асабліва цяжкім становішчы – з беднымі, хворымі, бяздомнымі, зьняволенымі, пакрыўджанымі: "Я быў галодны і вы накармілі мяне, цярпеў смагу і вы далі мне піць; быў у дарозе і вы прынялі мяне; голы і вы мяне адзелі; хворы, і вы адведалі мяне; у вязьніцы, і вы прыйшлі да мяне... "(Мц. 25:35-36). Вось чаму Царква, якой даручана прадаўжаць справу Хрыстовую на зямлі, ня можа аставацца абыякавай да людзкіх няшчасьцяў, бяды, хваробы, крыўды, прасьледу і т.д.

Загадаўшы сваім вучнямісьці і навучаць усе народы Хрыстос даў ясна пазнаць, што ягонае вучэньне мае ўнівэрсальны, усеабдымны характар. Перад Царквой паўстала адразу пытаньне, як пагадзіць гэтую ўнівэральнасьць з розьніцамі, якія існуюць сярод адзінак і

групаў людзей. Першыя вучні Хрыстовыя былі, як і Ён сам на зямлі, гэбрэямі і яны спалучалі новую веру з перасьцераганьнем гэбрэйскіх рэлігійных практыкаў і абычаяў. Калі аднак Хрысьціянства пачало здабываць прыхільнікаў сярод іншых народаў, у Царкве паўстала спрэчка адносна таго, ці гэтыя практыкі зьяўляюца абавязковымі і для іх. Апосталы, разгледзеўшы справу, вынесьлі наступную пастанову: "Паколькі нам стала вядомым, што некаторыя, прыйшоўшы ад нас, ўстрывожылі вас сваімі словамі, сеючы закалот у вашых душах, кажучы, што трэба абрэзвацца і захоўваць закон (гэбрэйскі - А.Н.), чаго мы ім не загадвалі... здалося слушным Сьвятому Духу і нам не накладаць на вас ніякага цяжару, апроч таго, што неабходнае. Паўстрымлівайцеся толькі ад ідальскіх ахвяраў, крыві, ад задушанага, ад блуду; не рабіце іншым, чаго ня хочаце, каб вам рабілі. Захоўваючы гэта, добра зробіце". (Ап. Дз. 15:24, 28-29). Такім чынам быў устноўлены вельмі важны прынцып адзінства ў разнастайнасьці, або мірнага сужыцьця ў духу ўзаемнай пашаны і любові людзей розных моў, рас, культураў і абычаяў, злучаных адзінствам веры ў адной Божай сям'і. Гэты прынцып стаўся асноваю ўсёй далейшай дзейнасьці Царквы. Прыносячы сьвятло Хрыстовае навукі, Царква з павагаю адносілася да мовы, культуры, абычаяў данага народу, не накідаючы яму сілаю чужога. Прыгожым прыкладам гэтага зьяўляецца дзейнасьць у 9-тым стагодзьдзі апосталаў славянаў, сьвятых братоў Кірылы і Мятода. Узгадаваныя на грэцкай культуры, адной з найбагацейшых у сьвеце, яны ня толькі не накінулі яе сілаю славянам, якія стаялі толькі на пачатку свайго культурнага разьвіцьця, але, прынёсшы ім Хрыста, стварылі ўмовы для разьвіцьця іхняй уласнай багатай і арыгінальнай культуры.

Часта прыходзілася Царкве ставаць у абароне нейкага народу, ягонай мовы, культуры і права да самастойнага існаваньня. На жаль здараліся і адваротныя выпадкі. Беларуская газэта Гоман што выходзіла ў Вільні падчас Першай сусьветнай вайны, згадваючы змаганьне ірляндцаў за нацыянальную незалежнасьць піша, што ў найбольш цяжкія мамэнты ў іхняй гісторыі "каталіцкія ксяндзы не адварачваліся ад гэтага народу-мучаніка: яны, сьледуючы навукам Хрыста, нясьлі яму пацеху і ўсялякую помач, яны служылі свайму народу ўсёй сваёй душой, усімі сіламі". Зусім інакш выглядае справа ў беларусаў: "Беларусы ... выбіваюцца на вольную дарогу. Яны патрабуюць помачы сьвятлейшых братоў сваіх, а ў першы чарод – свайго духавенства. Але тут, не раўнуючы да Ірляндыі, яны нічога супольнага з нашым народам ня маюць. Вачам ня верыш, глядзячы на тое, як па ўсіх беларускіх вёсках каталіцкія ксяндзы адкрываюць для народу, які рвецца да сьвятла, школы ў чужой мове. Ня хочацца верыць ... што знаходзяцца духоўныя асобы, каторыя нашых беларусоў падмаўляюць, каб выракліся ня толькі мовы сваёй, але і імя свайго народу... Беларусы дагэтуль ня маюць сваіх ксяндзоў, каторыя

працавалі бы для іх... І ў гэтым наша няшчасьце... Мы, беларусы, нават слова спагады ня чуем ад нашага духавенства ў такі важны гістарычны момант, як цяперашні, калі важыцца далейшая будучыня народу і краю беларускага. Няўжо ж народ наш на сваёй дарозе да вольнага бытаваньня, як асобная нацыя, павінен ісьці міма касьцёла? Вось пытаньне, каторае трэба паставіць нашаму каталіцкаму духавенству. Народ шчыра прывязаны да Касьцёла, шчыра горнецца да яго і ўсёй душой жадае, каб у найважнейшы момант – у момант адраджэньня не астацца без касьцельнага багаславенства. Дагэтуль голас яго ня быў пачуты. Няўжо ж так будзе і далей? Мы думаем, што не... Іначай духавенства наша цяжка зграшыць ня толькі перад беларускім народам, але і перад Касьцёлам Каталіцкім, ад каторага яно адсоўвае яго верных сыноў" (Гоман, Вільня, 30.5.1916).

Нешматлікія сьвятары беларусы, якія шчыра спагадалі свайму народу, знаходзіліся ў незайздросным становішчы. Адзін з іх, ксёндз Кастусь Стэповіч (паэта Казімер Сваяк [1890-1926]), у 1916-17 гг. быў вікарным сьвятаром у Карыціне. У вольны час ён гутарыў з людзьмі па-беларуску, будзіў у іх нацыянальую сьвядомасьць. Раптам ... вось што ён піша ў сваім дзёньніку пад датай 13 сакавіка 1917 г.: "Сяньня мой пробашч пры абедзе зьнячэўку пытаў: 'Хто гэта даў да чытаньня беларускую кніжыцу, што чытаюць у мястэчку, сабраўшыся вечарам?' Адказаў я, што гэта мая работа. – 'Няхай ксёндз не заводзіць тут ніякіх навасьцяў. Прашу ня шырыць ані песьняў, ані казкаў, ані дэклямацыяў беларускіх!' Я даў згоду (!). Чаму?... Пробашч пасьля выясьніў, што – гэтага вымагае касьцельная палітыка з Вільні (!). Гэтага хоча касьцельны ўрад. Ёсьць бо небясьпека, што ад умілаваньня роднай мовы, беларус пачне дамагацца нават рэформы ў касьцеле. Хай жыцьцё плыве сваім карытам. Ня трэба будзіць духа самабытнасьці, бо гэта тымчасам небясьпечна для еднасьці Касьцёла". Далей аўтар апісвае свае пачуцьці: "Што тут справядліва, а што не?... Пакінь!... Пакінь, браце, свае думкі! Ты любіш Беларусь? Міласьць твая нешчасьлівая. Крыйся ты з ёю. Бойся яе аказаць, бо гэта ж можа даць урон для нейкай палітыкі, ведзенай у імя праўды (!)". (Казімер Сваяк. Дзея маей мысьлі, сэрца і волі. Вільня 1932, стар.53-54)

Гэтыя радкі больш чым сямідзесяцігадовай даўнасьці ня страцілі сваёй надзённасьці і сёньня...

Беларусы каталікі (тут ідзе гутарка аб каталіках рымскага абраду, бо ўсходніх каталікаў, пасьля зьнішчэньня Вуніі ў 1839 г., у Беларусі асталося мала) зьяўляюцца неад'емнай часткай беларускага народу. Разам са сваімі праваслаўнымі братамі яны былі сярод пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэньня. З іх радоў выйшла шмат выдатных беларускіх нацыянальных і культурных дзеячаў, сярод іх Янка Купала. Нягледзячы на гэта яны ніколі не сус-

трэлі падтрымкі і спагады з боку царкоўных уладаў. Наадварот, Каталіцкая Царква ў асобах яе мясцовых прадстаўнікоў – з нешматлікімі высакароднымі выняткамі, – была ў найлепшым выпадку абыякавай, а звычайна варожай да ўсяго беларускага, стараючыся часта перашкодзіць росту беларускай нацыянальнай сьвядомасьці і ўтрымаць за ўсякую цану польскі характар Царквы ў Беларусі.

У такіх абставінах цяжка было астацца добрым беларусам і верным каталікам. Найцяжэй было нешматлікім беларускім сьвятаром, якім прыходзілася пераносіць ўсякага роду прыкрасьці і перашкоды ад царкоўных уладаў і польскага духавенства. Аб узгадаваны новых беларускіх сьвятароў не магло быць нават і гутаркі. Дык ня дзіва, што цяпер беларускіх каталіцкіх сьвятароў на Бацькаўшчыне і паза яе межамі асталісія лічаныя адзінкі. Казімер Сваяк незадоўга перад сьмерцю з горыччу пісаў:

Сьвятар чужак жалезную
руку падняў,
Сьвятыню нам належную
сілком забраў.

Расьселіся, разьеліся
нябёс купцы,
У пёрыны адзеліся,
быццам глушцы.

Народны жаль, народны боль
ня кране іх:
Вядуць на зьдзек, вяуць на боль
сьляпых, крывых.

(К. Сваяк, "Прыйдзі, Хрысьце". Беларуская крыніца, Вільня, 31.1.1926)

Гэта ўсё гісторыя і магчыма ня варта было б яе ўспамінаць, калі б ня тое, што ў наш дзень амаль нічога не зьмяніліся. Каталіцкая царква ў Беларусі мае далей польскі характар. Сьвятары ў пераважнай большасьці вядуць пастырскую працу на польскай мове і стараюцца за ўсякую цану захаваць тое, што адзін з іх акрэсьліў як "незвычайна трывалы сплаў каталіцызму і польскасьці" (Niezwykle trwały stop katolicyzmu i polskości). Адначасова сьвятары беларусы, якія гавораць з народам на роднай мове, абвінавачваюцца ў "нацыяналізьме", "моўным фанатызьме" і нават у "русыфікацыі". Бярэцца нават пад сумліў іхняя шчырасьць і добрая вера. У адным з нядаўніх дакумантаў гаворыцца пра сьвятара беларуса, што ён толькі "лічыць сябе беларусам" (uważa się za Białorusina).

Абаронцы польскасьці паклікаюцца звычайна на традыцыйна польскі характар Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Ня месца тут разглядаць наколькі гэты аргумант гістарычна праўдзівы. Варта толькі заўважыць, што ня ўсе людзкія традыцыі добрыя: многія з іх у сілу зьмененых абставін могуць быць нават шкоднымі, асабліва калі ўжываюцца для адмаўленьня асноўных людзкіх правоў іншых. Ня

шкодзіць прыпомніць словы Хрыста, сказаныя фарысеям: "Пакінуўшы запавет Божы, вы трымаецеся традыцыі людзкой" (Мк. 7:8). Дый урэшце пасьпешнае ўвядзеньне пасьля Другога Ватыканскага Сабору ў багаслужэньнях польскай мовы на месца лацінскай, пры аднача-совай варожасьці да беларускай, паказвае, што не ў традыцыі справа.

Іншы аргумант, менавіта што "без польскай мовы Каталіцкая Царква сёньня ня можа ўтрымацца ў Беларусі" ( Bez języka polskiego Kościół katolicki w tej chwili utrzymać się na Białorusi nie może) зьяўляецца проста крыўдным для беларусаў. Тыя, хто ім карыстаецца, або не разумеюць унівэрсальнага характару Царквы, або ім не хапае добрай волі. Мімаволі родзіцца падазрэньне, што ім ідзе ня столькі пра лёс Царквы ў Беларусі, сколькі пра выкарыстаньне яе для ўтрыманьня польскасьці. Інакш як зразумець наступнае высказваньне: "Застанаўляючыся над лёсам палякаў і Каталіцкай Царквы ў Беларусі, адзін са сьвятароў сказаў, што 'саюз палякаў з Царквою ўратаваў Царкву і польскасьць'. Польская мова ў цэрквах ёсьць і астаецца сымбалем веры і Польшчы. Акрэсьленьне паляк-каталік сталася для нас неабходным а саюз польскасьці з каталіцызмам – збавенным" ("Zastanawiając się nad losem Polaków i Kościoła Katolickiego na Białorusi, jeden z księży powiedział, że 'związek Polaków z Kościołem uratował i Kościół i polskość'. Język polski w kościołach był i pozostaje symbolem wiary i Polski. Określenie Polak-katolik stało się dla nas niezbędne a związek polskości z katolicyzmem zbawienny". N. Klenicka. Położenie ludności polskiej na Litwie i Białorusi. Słowo narodowe, No.1, Warszawa, maj 1989). Цьверджаньні падобнага характару раўназначныя з абвесткай на дзьвярах царквы: "Беларусам уваход забаронены".

Аргуманты, быццам беларусаў католікаў няма, а толькі палякі, або што беларусы добра разумеюць польскую мову і таму няма патрэбы уводзіць беларускую, настолькі прымітыўныя і непаважныя, што шкода часу на адказ. Між іншым аўтару гэтых радкоў адзін польскі дастойнік сказаў што "для пабожнага чалавека ня важна, на якой мове атрымае разграшэньне". На запытаньне, чаму тады гэтая мова павінна быць польскай, а не беларускай, адказу не атрымаў...

Хоць дачыненьні польскіх сьвятароў да беларусаў не зьмяніліся, самі беларусы ўжо ня тыя, якімі былі семдзесят, пяцьдзесят ці нават дваццаць гадоў таму назад. За апошні час ім прыйшлося шмат перажыць і перацярпець. Сёньня беларусы маюць у сэрцах сваіх нясьцерпны боль Курапатаў і глядзяць з трывогаю на будучыню Бацькаўшчыны, на якую паў злавесны цень Чарнобыля. Яны перажылі спробу зьнявечыць іхнюю душу, адабраць ім мову, гісторыю, народную памяць, патаптаць іхнюю людзкую і нацыянальную годнасьць, адмовіць ім у праве "людзьмі звацца". Гэтую палітыку дэнацыяналізацыі праводзілі, калі можна ўжыць словы Максіма Гарэцкага, "чужыя людзі", якія "не заўважваючы на сабе яшчэ ня скінутай імі сваёй

выконваючы загад Хрыста "Ідзіце, навучайце ўсе народы", павярнуцца тварам да карэннага насельніцтва краіны, спрагнёнага духоўнай стравы, пры захаваньні правоў усіх іншых нацыянальных групаў. Які шлях праўдзівы, хіба ня можа быць ніякага сумніву.

Адносіны найвышэйшых царкоўных уладаў да беларусаў былі даволі неакрэсьленыя. Можна сказаць што да апошняй сусьветнай вайны гэтыя ўлады у большасьці выпадкаў стараліся не заўважваць існаваньня беларусаў. Пасьля вайны абставіны зьмяніліся на лепшае, але толькі на эміграцыі. У розных краінах паўсталі беларускія душпастырскія асяродкі, Ватыканскае Радыё ўвяло перадачы на беларускай мове, пачалі выходзіць рэлігіныя часапісы і кніжкі. У 1960 годзе беларусы атрымалі першага каталіцкага біскупа ў асобе Уладыкі Чяслава Сіповіча. Хоць ён належаў да бізантыйскага абраду, на працягу 21 гадоў свайго біскупства ён быў сапраўдным духоўным праваднікам усіх беларусаў каталікаў. Аднак ад самага пачатку галоўным клопатам Уладыкі Чяслава, ўсіх беларускіх сьвятароў і вернікаў было паложаньне Царквы на Бацькаўшчыне. У шматлікіх мэмарыялах і лістах, на папскіх аўдыенцыях яны дамагаліся ўпарадкаваньня царкоўнага жыцьця ў Беларусі. У прыватнасьці яны прасілі назначыць там беларускага біскупа, зьвярталі ўвагу на неабходнасьць беларусізацыі царкоўнага жыцьця праз увядзеньне беларускай мовы ў багаслужбах, адпраўляньні трэбаў (сакрамантаў), навучаньні Закону Божага, царкоўнай адміністрацыі і т.д. Адначасова яны падкрэсьлівалі, што справы якія датычаць Каталіцкай Царквы ў Беларусі не павінны вырашацца без удзелу і голасу саміх беларусаў.

Паднясеньне да біскупскай годнасьці кс. Тадэвуша Кандрусевіча і назначэньне яго Апотальскім Адміністратарам Менскім з юрысдыкцыяй над усімі каталікамі рымскага абраду ў Беларусі, можна разглядаць як адказ на шматгадовыя малітвы і просьбы беларусаў. Тым ня менш яно зьяўляецца для ўсіх вялікай нечаканасьцю і таму выклікае пачуцьцё занепакоенасьці. Перадусім у вырашэньні так важнай для іх справы беларусы ня мелі ніякага голасу: усё рабілася ціха і без іхняга ведама. Другое, што непакоіць – гэта асоба самога біскупа Кандрусевіча, які зьяўляецца зусім няведамым сярод беларусаў. Неабходна тут адразу зрабіць засьцярогу, што гэта ня крытыка новага біскупа, а толькі сьцьверджаньне факту. Вельмі магчыма, што дзякуючы сваім выдатным асабістым якасьцям ён зьяўляецца найбольш адпаведным кандыдатам на такое адказнае становішча. Ён аднак павінен прабачыць беларусам за тое, што яны не адчуваюць асаблівай радасьці з прычыны ягонага назначэньня. Магчыма гэтая радасьць прыйдзе пазьней. А тымчасам яны памятаюць яго ў сваіх малітвах і шчыра жадаюць, каб Добры Бог даў яму патрэбную сілу ласку быць сапраўдным пастырам для ўсіх сваіх вернікаў. У паведамленьні аб ягоным назначэньні гаворыцца,

што ў Беларусі ёсьць два мільёны каталікаў. Паводле афіцыяльнай савецкай статыстыкі, там жыве каля 500 тысяч палякаў (большасьць якіх уважае беларускую мову сваёй роднай). Такім чынам астаецца паўтара мільёна вернікаў іншых нацыянальнасьцяў, абсалютная большасьць якіх – беларусы. Трэба спадзявацца, што іхнія патрэбы ня будуць забытыя.

Вялікі патрыёт свайго народу, сьвяты Павал сказаў: "Праўду кажу ў Хрысьце, не маню, сьведка мне сумленьне маё ў Духу Сьвятым, што вялікі для мяне сум і мука няўстанная сэрцу майму: я хацеў бы сам быць адлучаным ад Хрыста за братоў маіх, родных мне целам, гэта значыць Ізраільцянаў"(Рым. 9:1-4). І ўсё ж ён ня толькі не адрокся Хрыста, ведаючы што гэта не прынясе карысьці ні яму ні ягонаму народу, але пасьля доўгіх гадоў, праведзеных у пашырэньні Евангельля па ўсім сьвеце, аддаў за Яго сваё жыцьцё. У падобны спосаб беларусы каталікі, нягледзячы на прыкрасьці і крыўды, якія ім прыйшлося цярпець ад сваіх братоў па веры, асталіся вернымі Сьвятой Каталіцкай Царкве і свайму народу. Беларускія сьвятары Адам Станкевіч, Кастусь Стэповіч (паэта Казімер Сваяк), Аляксандар Астрамовіч (паэта Андрэй Зязюля), Вінцэнты Гадлеўскі, Віктар Шутовіч, Фабіян Абрантовіч, Андрэй Цікота і многія іншыя паказалі ўсім сваім жыцьцём (а некаторыя і сьмерцю), што ніякія крыўды людзкія ня змогуць адлучыць іх ад любові Божай. Іхні прыклад сёньня натхняе беларусаў. Яны, астаючыся вернымі сынамі Сьвятой Царквы – нягледзячы на тое, што часта адчуваюць сябе пасынкамі, – будуць заўсёды дамагацца належных ім правоў, сярод якіх права свабодна славіць Бога на роднай мове займае не апошняе месца.

Безумоўна, слова "дамагацца" паказвае, што ня ўсё ў парадку, што некаму дзеецца крыўда. Было б далёка лепш, каб можна было абыйсьціся без яго, каб усе вернікі Беларусі – беларусы і палякі, латышы і літоўцы, расейцы і ўкраінцы, – жылі ў згодзе, паказваючы ўзаемную любоў і пашану і сьведчачы ня толькі на словах, але прыкладам аб той вялікай Праўдзе Хрыстовай, што ў іх.

"Шкода мне народу" – сказаў Хрыстос, гледзячы на тысячы людзей, – бедных, змучаных, галодных, – якія прыйшлі да Яго здалёку, каб пачуць словы вечнага жыцьця. Гэтых трох маленькіх слоў хопіць і для беларусаў, каб адчыніць сэрцы свайму новаму біскупу і пастыру. Спадзяемся, што яны пачуюць іх ад яго.

а. Аляксандар Надсон.

## ВЕСТКІ З РЭЛІГІЙНАГА ЖЫЦЬЦЯ.

### Назначэньне біскупа ў Беларусі.

25 ліпеня г.г. Сьвяты Айцец назначыў а. Тадэвуша Кандрусевіча Апостальскім Адміністратарам Менскім, падносячы яго адначасова да біскупскай годнасьці з тытулам біскупа Гіпонскага, і аддаючы пад яго апеку ўсіх католікаў рымскага абраду ў Беларусі.

З афіцыяльнага паведамленьня можна даведацца крыху аб асобе новага біскупа. Нарадзіўся ён 3 студзеня 1946 г. у вёсцы Адэльск, што на Горадзеншчыне. Пасьля студыяў матэматыкі ў Гародні, і архітэктуры ў Ленінградзе, паступіў у духоўную семінарыю ў Каўнасе. Сьвятарства атрымаў 31 траўня 1981 г., пасьля чаго працаваў у (польскай) парафіі ў Вільні, а ад пачатку 1988 г. у (таксама польскай) парафіі Маці Божай Анельскай у Гародні.

Як Апостальскі Адміністратар Менскі новы біскуп зьяўляецца наступнікам сьв. памяці Балеслава Слоскана, які памёр у 1981 г. Беларусы вельмі цёпла ўспамінаюць Біскупа Слоскана, які адзначаўся сьвятасьцю жыцьця і пачуццём справядлівасьці і, будучы латышом, ведаў цудоўна беларускую мову. Гэта дзякуючы ў вялікай меры ягоным стараньням яны атрымалі свайго першага біксупа ў асобе Уладыкі Часлава Сіповіча. Трэба спадзявацца, што новы біскуп будзе дастойным наступнікам гэтага сьвятога і добрага пастыра.

### Ліст а. Аляксандра Надсона новаму біскупу.

Айцец Аляксандар Надсон выслаў 26 ліпеня біскупу Тадэвушу Кандрусевічу ліст наступнага зьместу:

Ваша Дастойнасьць,

Толькі што даведаўся, што Сьвяты Айцец назначыў Вас Апостальскім Адміністратарам Мінскім, падносячы Вас дас біскупскай годнасьці.

Справа ўласнага біскупа на Беларусі была прадметам няўстанных малітваў усіх беларусаў каталікоў на Бацькаўшчыне і расьцярушаных па ўсім сьвеце. Сёньня мы аднадушна аддаем падзяку Ўсемагутнаму за гэтую вялікую ласку.

Мы ўпэўнення, што беларускія вернікі будуць мець у Вас добрага і спагадлівага пастыра, чульлівага на іхнія патрэбы. Маем таксама надзею, што беларуская мова атрымае належнае месца ў царкоўным жыцьці і што беларусы змогуць свабодна славіць Бога на сваёй роднай мове, а беларускія дзеткі – атрымліваць на гэтай мове навуку збавенных праўдаў Божых.

Я зьяўляюся сьвятаром бізантыйскага абраду і займаюся пастырскай дзейнасьцю сярод беларусаў, якія жывуць за межамі Беларусі. Нягледзячы на розьніцу абрадаў, нас лучыць адна вера і прыналежнасьць да адной Сьвятой Каталіцкай Царквы. Думаю, што нас таксама лучыць любоў Бе-

Сьвятой Каталіцкай Царквы. Думаю, што нас таксама лучыць любоў Беларусі і беларускага народу. Дзеля гэтага буду рады, калі змагу быць у будучыні ў нечым памочным Вашай Дастойнасьці.

Канчаючы, хачу запэўніць Вашу Дастойнасьць у маіх малітвах і найлепшых пажаданьнях, каб Госпад паблаславіў Вашу дзейнасьць і каб яна прынесла багатыя плады на славу Божую і для дабра даверанай Вам паствы.

Аддана ў Госпадзе нашым Ісусе Хрысьце
(–)Аляксандар Надсон,
Апостальскі Візытатар для беларусаў каталікоў
за межамі Беларусі.

## Водгукі назначэньня біскупа ў Беларусі ў ангельскай прэсе і радыё.

Амаль уся заходняя прэса, у тым ліку і ангельская, падала 26 ліпеня вестку аб назначэньні біскупа Кандрусевіча. Большасьць газэтаў абмежавалася да пераданьня зьместу афіцыяльнага паведамленьня. У артыкуле "Byelorussia Bishop appointed" (Назначаны біскуп Беларусі) ў The Daily Telegraph гаворыцца, што "Як новы доказ палепшаньня дачыненьняў між Ватыканам і Масквою, Папа назначыў новага каталіцкага біскупа ў Савецкім Саюзе,". The Times у артыкуле "Vatican Bishop welcomed" (Ватыканскі біскуп прыхільна прыняты), кажа: "Першы раз пасьля Другой сусьветнай вайны Ватыкан назначыў біскупа для Менскай дыяцэзіі ў Беларускай Савецкай Рэспубліцы". Біскуп Кандрусевіч між іншым называецца ў артыкуле беларусам. Каталіцкая тыднёвая газэта Catholic Herald памясьціла 28 ліпеня кароткі артыкул з крыклівым тытулам "Kremlin apprroves Russian Bishop" (Крэмль адабрае расейскага біскупа). Уплывовы каталіцкі тыднёвік The Tablet надрукаваў 5 жніўня ўдумлівы артыкул Веры Рыч "Catholic episcopate restored" (Каталіцкае біскупства адноўленае). Аўтарка кажа, што назначэньне біскупа Кандрусевіча, які належыць да польскай нацыянальнай меншасьці ў Беларусі, зьяўляецца вельмі дражлівай справай у часе, калі беларускае патрыятычна настроенае грамадзтва дамагаецца беларусізацыі ўсіх галінаў жыцьця, у тым ліку рэлігійнага. Далей у артыкуле выражецца шкадаваньне, што Ватыкан, беручы пад увагу цяперашняе становішча ў Беларусі, не запытаўся думкі беларускіх сьвятароў на Бацькаўшчыне і за мяжою. Чытач Гай Пікарда, у лісьце надрукаваным у The Tablet 12 жніўня, выказвае меркаваньне, што вялікую ролю ў назначэньні новага біскупа адыгралі Кардынал Глемп і праваслаўны Мітрапаліт Менскі Філярэт, "ніводзін з якіх не адзначаецца любоўю да беларускай мовы". Пікарда спадзяецца, што новы біскуп "будзе чульлівы да патрэбаў маладых вернікаў – лік якіх якіх усьцяж расьце, – якія не гавораць па-польску і не разумеюць, чаму ў іхняй краіне нельга адпраўляць Імшу на іхняй роднай беларускай мове".

Далей аўтары гавораць аб нацыянальным адраджэньні, якое цяпер перажывае беларускі народ, і пасьля прадаўжаюць:

"Вось чаму ў гэты вельмі знамянальны і складаны час мы зьвяртаемся да Вас... Сваім словам, сваім аўтарытэтам, сваёй воляй урэшце, дапамажыце рэлігійнаму адраджэньню на Беларусі, дапамажыце нацыянальнаму адраджэньню нашага народа. Паняцьці нацыянальнае і рэлігійнае ў нашых абставінах непадзельныя. Пашырэньне ўплыву Каталіцкай Царквы можа адбывацца толькі на беларускай нацыянальнай аснове. Пры ўсёй нашай вялікай пашане да рэлігійных і нацыянальных правоў польскай нацыянальнай меншасьці на Беларусі, мы з перакананасьцю можам сьцьвярджаць: будучыня каталіцызму на нашай зямлі можа быць толькі беларускай. Чым больш людзей пойдзе ў касьцёл слухаць мудрасьць Боскую на роднай, матчынай мове, тым мацней будзе каталіцкая вера ў нашым краі... Каталіцызм павінен назаўжды павярнуцца тварам да беларускага народа. Беларуская мова павінна гучаць у касьцёлах. Сюды павінны кіравацца беларускамоўныя ксяндзы-беларусы. Нам патрэбен свой нацыянальны біскуп, абавязкова сьвядомы беларус. Беларусы каталікі павінны заняць сваё шанаванае месца ў каталіцкай сьвятовай супольнасьці. Хто, як ня Вы, старшыня Каталіцкага Касьцёла, можа паспрыяць зямлі беларускай? А яна будзе бясконца ўдзячнай Вам і маліцца за Вас...".

## **Устаноўчы Зьезд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".**

24-25 чэрвеня г.г. у Вільні адбыўся Устаноўчы Зьезд Беларускага Народага Фронту (у скароце БНФ) "Адраджэньне". Фронт, які паўстаў у кастрычніку мінулага году, ставіць сабе за мэту нацыянальнае адраджэньне беларускага народу – моўнае, культурнае, маральнае, рэлігійнае і эканамічнае, - ахову асяродзьдзя і мірнае сужыцьцё ўсіх грамадзян Беларусі у духу талеранцыі і пашаны да мовы і культуры нацыянальных меншасьцяў, пры захаваньні за беларускай мовай статусу дзяржаўнай. Зьезд, на якім прысутнічала 399 дэлегатаў і каля 350 гасьцей, зацьвердзіў праграму Фронту, прыняў шмат важных пастановаў, у тым ліку пастанову аб пераадоленьні вынікаў Чарнобыльскай катастрофы, аб дзяржаўнасьці беларускай мовы і аб свабодзе сумленьня, якая ніжэй перадрукоўваецца; выбраў Сойм (Управу) на чале са старшынёй Зянонам Пазьняком. На зьезьдзе быў прысутны беларускі каталіцкі сьвятар а. Янка Матучсевіч, які ў сваёй прамове сказаў: "Сумна тое, што і сёньня, пры зьмененых палітычных абставінах, Каталіцкая Царква ў Беларусі зьяўляецца маленькай нацыянальна чужой рэлігійнай установай, якая ня мае ніякага значэньня ў беларускім нацыянальным жыцьці". Для ўдзельнікаў зьезду ў нядзелю 25 чэрвеня была адслужаная ў касьцеле сьв. Мікалая сьвятая Імша на беларускай мове.

**Пастанова Зъезду БНФ аб свабодзе сумленьня і беларускай мове ў рэлігійным жыцьці на Беларусі.**

БНФ лічыць неабходным: уключэньне ў Канстытуцыю Рэспублікі цьвёрдых гарантыяў дасягненьня і захаваньня сапраўднай свабоды сумленьня чалавека, рэлігійнай талерантнасьці, раўнапраўя веравызнаньняў, а таксама вернікаў і атэістаў; выступае за стварэньне жыцьцяздольных адміністрацыйна-духоўных цэнтраў і структур – як хрысьціянскіх так і не хрысьціянскіх, – за свабоднае функцыянаваньне іх абшчын, навучальных і іншых установаў, кляштараў і місіяў, органаў друку.

БНФ выказваецца за паступовы пераход набажэнстваў і рэлігійнай дзейнасьці ў Рэспубліцы на беларускую мову, асабліва ў хрысьціянскіх канфесіях, не выключаючы магчымасьці выкарыстаньня і іншых моваў у рэлігійнай практыцы там, дзе гэта диктуецца нацыянальным складам вернікаў.

БНФ адзначае, што гвалтоўная ліквідацыя ў 1839 і 1946 гг. уніяцтва абмежавала свабоду веравызнаньня жыхароў Беларусі, разьяднала народ, пазбавіла рэлігійнае жыцьцё Краю яго нацыянальнай асновы. Адсутнасьць такой асновы і сёньня не спрыяе адзінству нацыі і адмоўна ўзьдзейнічае на яе духоўны стан.

БНФ падтрымлівае патрабаваньні рэлігійных арганізацыяў і групаў вернікаў аб звароце ім у прыдатным стане ўсіх забраных некалі і зьнявечаных дзяржавай храмаў і іншай маёмасьці, аб будаўніцтве новых храмаў у адпаведнасьці з канкрэтнымі патрэбамі.

БНФ стаіць за вяртаньне да агульначалавечай духоўнай гуманістычнай маралі, за шанаваньне духоўных звычаяў народа, лічыць неабходным патрабаваць ад уладаў афіцыйна прызнаць Вялікдзень і Каляды (Нарадзіны Хрыста) грамадзкімі духоўнымі сьвятамі па праваслаўнай і каталіцкай традыцыях; дзень памяці Кірыла і Мяфодзія і Дзень Задушны (Восенскія "Дзяды").

(Навіны БНФ, Но.7, ліпень 1989)

**Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны.**

27 чэрвеня ў Менску адбыўся ўстаноўчы зьезд Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ) імя Францішка Скарыны. Паўстаньне новай арганізацыі выклікана трывогай многіх беларусаў за лёс роднае мовы. Іх пачуцьці добра перадаў Пімен Панчанка у малаведамых радках свайго верша:

Ці плачу я, ці пяю? Вярніце мне мову маю!
Восень. На вуліцы цёмна. Вярніце жыцьцё мне!

Таварыстава выдала "Зварот да грамадзян Беларускай ССР, да беларусаў, якія жывуць за межамі рэспублікі, да ўсіх прыхільнікаў беларускага слова", у якім, між іншым, гаворыцца:

"...З асаблівым болем даводзіцца бачыць, як наша, адна з найбольш старажытных і багатых славянскіх моў, у выніку разгулу сталінскіх рэпрэсій, чыноўніцка-бюракратычнай недальнабачнай палітыкі страчвала і страціла сваё дзяржаўнае значэньне, апынулася на гранічнай мяжы свайго існаваньня.... Мы зьвяртаемся да ўсіх грамадзян рэспублікі... і горача заклікаем з разуменьнем і адчуваньнем гістарычнай адказнасьці паставіцца да катастрафічнага становішча беларускай мовы на Беларусі – падтрымаць шматлікія прапановы грамадзкасьці аб неадкладным наданьні ёй дзяржаўнага статуса ў рэспубліцы.... Мы зьвяртаемся да ўсіх беларусаў, якія жывуць па-за бацькаўшчынаю... словам і чынам дапамагаць адраджэньню і разьвіцьцю мовы нашага шматмільённага народа, які вынес праз стагодзьдзі безьліч пакут, зьдзекаў, прыніжэньняў...".

Старшынёй Таварыства быў выбраны пісьменьнік Ніл Гілевіч. У працах Зьезду, на якім было каля 300 дэлегатаў, прынялі ўдзел і каталіцкія сьвятары Уладзіслаў Чарняўскі і Янка Матусевіч. Айцец Чарняўскі, у сваім выступленьні на тэму "Касьцёл і мова" сказаў, што "посьпех прыйдзе толькі тады, калі ніхто, незалежна ад веры, ня будзе абыякавым да лёсу сваёй мовы, а, значыць, і да лёсу сваёй нацыі" .

(Літаратура і мастацтва, 7.7.1989).

## Рэлігійныя пытаньні ў Беларускіх "нефармальных" выданьнях.

Цікавым зьявішчам у нацыянальным жыцьці ў Беларусі зьяўляюцца г.зв. "нефармальныя, або афіцыяльна непрызнаныя, выданьні, якіх паявілася апошнім часам даволі шмат дзякуючы прыватнай ініцыятыве адзінак і розных групаў. У атмасфэры "галоснасьці" ўлады ня маюць сілы забараніць іх, але, дзе могуць, робяць усякія цяжкасьці і прыкрасьці. Пад даволі сьціплай вонкавай формай "нефармальных" выданьняў крыецца багаты і цікавы зьмест. Пытаньні мовы, гісторыі і культуры, памяці ахвяраў прасьледу, аховы гістарычных помнікаў і асяродзьдзя займаюць галоўнае месца. Адчуваецца сахільнасьць да навязаньня сувязі з беларускімі адраджэнскімі традыцыямі 20-ых гадоў. Так Студэнцкая думка (выходзіць з сьнежня 1988 г.) лічыць сябе прадаўжальніцай аднайменнага часопіса, які выходзіў перад вайною ў Вільні. У падобны спосаб на першай старонцы органу беларускага таварыства "Сьвітанак" у Рызе, Голас беларуса, гаворыцца, што часапіс "выходзіць з 1925 г. (з перарывамі)".

Ёсьць два "нефармальныя" рэлігійныя часапісы: Вера (каталіцкі; месца выданьня Менск-Смаленск!) і Праваслаўная думка. Абодвы выдаюцца незалежныя ад царкоўных уладаў. У "аб'яве рэдакцыі" ў першым нумары Веры (іншых нумароў не ўдалося бачыць) гаворыцца: "Беларусы! Мы перажываем цяжкі для Веры і Бацькаўшчыны час. Каталіцызм на Беларусі памірае разам з ксяндзамі, што выракліся нашай мовы і зямлі, што напаверку не любілі наш хрысьціянскі народ. Ня ўсе такімі былі і ёсьць,

але большасьць... Маўчаць у такіх абставінах ганебна. Трэба ратаваць духоўныя каштоўнасьці, разьвіваць і прадаўжаць іх у нашым народзе... Задача нашага часопісу даваць інфармацыю пра рэлігійнае жыцьцё, рэлігійную гісторыю і рэлігійную культуру Беларусі". Часапіс стараецца выканаць пастаўленыя перад сабою заданьні: побач з тэкстамі малітваў "Ойча наш...", "Прывітана будзь Марыя...", там ёсьць такія артыкулы, як "Паўстаньне (1863 г. - Рэд.) і рэлігія", "Купала і Каталіцызм", "Сьвятар і паэт" (пра Казімера Сваяка), і т.д. Калі ідзе пра Праваслаўную Думку, дык адразу кідаецца ў вочы яе мастацкае афармленьне. Зьмест часапіса складаецца з рэлігійных вершаў Зьніча (Алега Бэмбеля), урыўку з дзёньніка Ўладзімера Караткевіча, навінаў з Менскай епархіі, песьні ў гонар Маці Божае Жыровіцкае і інш.

Іншыя выданьні прысьвячаюць шмат месца рэлігійным пытаньням. У Но.3 (красавік-травень 1989) бюлетэня Каардынацыйнае Рады Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак (моладзі) Супльнасьць знаходзіцца гутарка з перакладчыкам Сьвятога Пісаньня на беларускую мову, Васілём Сёмухай. Вышэй успомненая Студэнцкая думка мае ў Но. 3 г.г. інтэрвью з Алегам Бембелем, аўтарам вядомай працы "Мова і маральна-эстэтычны прагрэс" і здольным паэтам (піша пад псэўдонімам "Зьніч"), пяру якога належыць цэлы рад глыбока рэлігійных вершаў. У Но.5 ў артыкуле "Паляк? Рускі? Можа Беларус?" разглядаецца набалелае пытаньне "польскай" і "рускай" веры. Побач памешчаная "Малітва за беларускі Народ", узятая з малітаўніка Божым шляхам (Рым 1946), а таксама вестка пра беларускія перадачы Ватыканскага Радыё, з заклікам слухаць іх рэгулярна. У Но. 7, сярод "датаў жальбы і смутку 1989 года", знаходзіцца: "150 гадоў таму (1839) – скасаваньне вуніі на Беларусі і забарона казаньняў па-беларуску ў сьвятынях. Гэтак пачынаўся доўгі працэс гвалтоўнага "адвучваньня" беларусаў ад іхняй рэлігіі, мовы, культуры, нацыянальнае самасьвядомасьці...".

Часапіс з цікавым тытулам Рэанімова (новае слова, якое азначае "адраджэньне" або "вяртаньне да жыцьця" мовы), які пачаў выходзіць у гэтым годзе ў Гародні, у першым нумары мае тэкст і музыку беларускага рэлігійнага гімну "Магутны Божа". Сярод матар'ялаў другога нумару ёсьць тэксты галоўных малітваў "Ойча наш...", "Вітай, Марыя..." і т.д., а таксама артыкул "Роздум маладога чалавека аб веры" падпісаны ініцыяламі А.Ш. Нумар чацьверты (апошні атрыманы) прысьвячаны поўнасьцю рэлігійным справам. Ва ўступным артыкуле рэдакцыя кажа: "У пошуках выйсьця з нацыянальнага тупіку, – парушана духоўная гармонія ў зьнішчанага фашызмам ды сталінізмам нашага народу, – мы зьвяртаемся да Бога... Гэты нумар газэты прысьвячаны адраджэньню духоўнасьці, увядзеньню ў царкву і касьцёл беларускай мовы. Калісьці набажэнства вялося на беларускай мове... Навучаныя горкім вопытам гісторыі, цяпер мы з асьцярогай адносімся да экспэрымэнтаў з грамадзтвам. Лічым, што наша мова таксама вартая для размовы з Богам... Вяртаньне да Бога рэальнае. Паэты... зьвяртаюцца да Бога ў вершах. Упарта змагаюцца вернікі за касьцёлы і цэрквы... Да духоўнай спадчыны

нашых продкаў вяртаемся мы са шчырай верай, што іх душы на тым сьвеце моляцца за адраджэньне Беларусі, як моліцца наш беларускі ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі ў сваёй парафіяльнай малітве за Беларусь і за беларускую моладзь, якая ўзьнялася на змаганьне за родную мову".
Часапіс аддае многа месца а. Чарняўскаму, пробашчу ў Вішневе, які адзін, нягледзячы на цяжкасьці і перашкоды, вось ужо больш за трыццаць гадоў вядзе душпастырскую працу на беларускай мове. На стар. 2 зьмешчаны ягоны ліст на канфэрэнцыю, якая адбылася ў Лодзі ў 1987 г., аб становішчы Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Ёсьць таксама кароткае інтэрвью з а. Чарняўскім, дзе між іншым ён кажа: "Паміж праваслаўем і каталіцтвам не павінна быць нянавісьці, абрады розныя... а мова – адна беларуская. Гэта і павінна нас яднаць. На добры лад трэба адчыняць супольную сэмінарыю для праваслаўных і каталіцкіх сьвятароў ды агульныя прадметы выкладаць разам. Мова ў сэмінарыі павінна быць толькі беларуская". За інтэрвью ідзе верш, падпісаны ініцыялам "М":

Грэе сонца, шчырае сьвітаньне,
Толькі ў Вішневе творыцца цуд:
тут сьвятар беларускі літаньне
адмаўляе адзін за свой люд.

Ужо вырак на нас напісаны.
Ўжо зьбірацца нам зьнікнуць пара.
Але нітачкай зь небам зьвязаны
грэшны люд праз свайго сьвятара.

Ні багацьця, ні славы, ні мовы,
Да сапраўднай галечы дайшлі.
І ня цямяць бяз веры галовы,
што адсюль адраджэньне душы.

На апошніх дзьвюх старонках чытач знаходзіць выбар рэлігійных вершаў і песьняў, а таксама весткі аб стане цэркваў і касьцёлаў у розных мясцовасьцях.

Рэлігійныя пытаньні відавочна моцна хвалююць маладое пакаленьне беларусаў. На жаль яны астаюцца "як авечкі без пастыра". Блаславёны Юры Матуляйціс пісаў у сваім дзёньніку: "Заданьнем Царквы ёсьць не навучаць мовам, але ў зразумелай мове навучаць народ таму, што патрэбнае для збаўленьня". Якая шкода, што бальшыня сьвятароў у Беларусі асталася глухою на гэтую здаровую раду сьвятога біскупа. Трэба спадзявацца, што цяпер, пры новым біскупе, справа рэлігійнага абслугоўваньня беларусаў палепшыцца.

********************

Вестка аб назначэньні біскупа ў Беларусі прыйшла падчас падрыхтоўкі гэтага нумару "Веснiка". Прыйшлося мяняць зьмест і для многіх матар'ялаў, якія раней меркавалася памясьціць, не знайшлося месца. Яны будуць надрукаваныя ў наступным нумары.

---

**Apostolic Visitor for Byelorussians**
**Marian House,**
**Holden Avenue,**
**London N12 8HY, England**